


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




№11 (164), ЛІПЕНЬ 2013 ГОДА

*Цытата нумара:*

**Прырода не церпіць недакладнасцяў і не даруе памылак.**

*Ральф Эмерсан*

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# "СТОП БАРШЧЭЎНІК!": БІЯЛАГІЧНЫ ЧАРНОБЫЛЬ ГАРАДОЧЧЫНЫ

**Непрыняцце адэкватных мер па вынішчэнню баршчэўніка Сасноўскага ў Межанскім сельсавеце прывяло да таго, што ён узяў у "палон" жыхароў весак Шарыпы, Сечанка, Барысаўка**

Баршчэўнік Сасноўскага на тэрыторыі Гарадоцкага раёна вальготна адчувае ўсе апошнія гады, калі з ім быццам бы распачалася барацьба на дзяржаўным узроўні. Але гэтая барацьба чагосьці варта, калі яна вядзецца на працягу дзесяцігоддзя на арэале яго распаўсюджання. Спыненне барацьбы з баршчэўнікам вядзе да таго, што ён працягвае наступ на культурныя землі.

У гэтым годзе за першае паўгоддзе Віцебшчына наогул не атрымала сродкаў на барацьбу з баршчэўнікам. Але на пачатку чэрвеня прыродаахоўны камітэт паведаміў, што ў траўні баршчэўнік скошана на плошчы 500 га з 1 600 га яго распаўсюду на Віцебшчыне. Для Межанскага сельсавета, дзе вялікая плошча пад гэтым біялагічным монстрам, тады гэта барацьба абмежавалася прыдарожнай паласой, дзе працавалі дарожнікі.

У выніку бяздзейнасці сельскай улады і сельскагаспадарчых землекарыстальнікаў на сярэдзіну ліпеня баршчэўнік узяў у "палон" жыхароў вёсак Шарыпы, Сечанка, Барысаўка, масава квітнее ўздоўж дарогі Гарадок-Мяжа.

Цэлыя плантацыі баршчэўніка буяюць каля вёскі Сечанка. Каля яе заўважны след "барацьбы" з баршчэўнікам: на некалькіх дзесятках сотак каля дарогі скошаны баршчэўнік. Але вакол скошанага месца ён буяе ў поўную моц.

Буяе баршчэўнік і каля вёскі Барысаўка, чакаючы часу для чарговай атакі некалькіх жылых дамоў.

Але ў самым небяспечным становішчы жыхары вёскі Шарыпы, якая месціцца за Сечанкай. Джунглі баршчэўніка вядуць у яе і толькі скошванне баршчэўніка палосой у метр дазваляе без перашкод дабрацца да вёскі. Але плантацыя баршчэўніка ўжо гаспадарыць у вёскі, заваяваўшы яе левы бок, узяўшы у палон бульбяныя палеткі.

Відавочна, што калі бліжэйшым часам не будуць выдзелены сродкі на барацьбу з баршчэўнікам, то мільярды семян монстра звядуць на нішто барацьбу ў папярэднія гады. Дадзенае становішча патрабуе неадкладнага рэагавання ўсіх кампетэнтных органаў, каб запаволіць наступ біялагічнага монстра ў 2013 годзе. І не толькі ў Межанскім сельсавеце.

**Леанід Гаравы**

*P.S. Пасля наведвання гэтых мясцін матэрыял аб праблеме баршчэўніка на Гарадоччыне быў размешчаны 16 ліпеня на сайце http://haradok.info, потым 20 ліпеня дадалі матэрыял пра яшчэ больш жахлівую сітуацыю ў в. Паловічы ( гл. 2-ю старонку) Стадалішчанскага сельсавета. Матэрыял пра в. Паловічы быў таксама падрыхтаваны карэспандэнтам "Камсамольскай праўды" Наталляй Партолінай і надрукаваны 24 ліпеня.*

*26 ліпеня Белта паведаміла аб паседжанні Віцебскага аблвыканкама на якім яго старшыня Аляксандр Косінец пры ўдзеле намесніка міністра прыродаахоўнага міністэрства патрабаваў прыняць неадкладныя меры па барацьбе з баршчэўнікам і наогул навесці парадак на Віцебшчыне да 1 снежня.*

НАША ПАМЯЦЬ

# НЕДАГЛЕДЖАНАЕ МЕСЦА МАСАВАГА ЗНІШЧЭННЯ

**Надыходзячая 70-я гадавіна вызвалення Гарадка падыходзячая падстава для афіцыйнага прызнання месцаў масавага знішчэння габрэяў пад час галакосту ў Другую сусветную вайну на Гарадоччыне.**

Прайшло ўжо амаль семдзесят гадоў, як была вызвалена Гарадоччына ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, але да гэтага часу афіцыйна не прызнаны многія месцы масавага вынішчэння габрэйскага насельніцтва на гарадоцкай зямлі.

Мясцовая габрэйская супольнасць прыклала ўсе намаганні, каб усталяваць помнікі на месцах масавага вынішчэння сваіх землякоў пад час Другой сусветнай зямлі каля Бярозаўкі, у Варабьёвых гарах, Бычысе, Езярышчы.

Гэта толькі па перапісу 2009 году ў Гарадоцкім раёне афіцыйна зафіксавана пражываньне ўсяго 19 габрэяў. А на мяжы 20-га стагоддзя колькасць габрэяў ў Гарадку дасягала 68% ад яго насельніцтва – іх было некалькі тысячаў. Дзейнічалі сінагогі, габрэйскія школы, шгабрэі кампактна пражывалі на многіх вуліцах Гарадка, актыўна займаліся рамёствам, удзельнічалі ў развіцці горада.

Але ўсё змянілася пад час фашысцкай акупацыі, калі афіцыйнай палітыкай захопнікаў стаў галакост -- вынішчэнне габрэйскага насельніцтва. Ужо на другім месяцы акупацыі ў жніўні 1941 году адбыўся першы масавы растрэл габрэяў, каля Бярозаўкі. Потым было утворана Гарадоцкае гета, адкуль масава вывозілі габрэяў на растрэл у Варабьёвы горы, як масава растрэльвала габрэяў у Бычысе і Езярышчы.

Толькі на сёняшні дзень афіцыйна прызнана ўсяго адно месца масавага вынішчэння савецкіх грамадзян – месца ў Варабьёвых гарах каля бальніцы, а астатнія застаюцца месцамі памяці, месцамі смутку толькі габрэяў.

Масавыя растрэлы габрэяў у Варабьёвых гарах адбываліся і далей у накірунку Святога возера.Зараз знаходжанне гэтага месца на дарозе да Святога возера пазначана брамай з трыма зоркамі Давіда, а само месца знаходзіцца ў лесе на адлегласці 300 метраў ад дарогі.

На месцы растрэлу габрэяў усталяваны помнік аб тым, што тут адбываўся растрэл савецкіх грамадзян у жніўні 1941 году. І толькі агароджа з габрэйскімі зоркамі сведчыць, што гэты я савецкія грамадзяне былі габрэямі. Месца масавага знішчэння не дабраўпарадкавана – зарасло пустазеллем.

Між тым, гістарычная памяць аб вайне патрабуе шанавання ўсіх месцаў, дзе адбывалася знішчэнне нашага насельніцтва. Не да твару беларусам пакінуць без увагі месцы трагедыі габрэйскага народу, які не адно стагоддзе жыў побач з намі ў нашых краях. І пачаць трэба з афіцыйнага прызнання месцаў масавага знішчэння габрэяў на Гарадоччыне: у Бярозаўцы, у Варабьёвых гарах, Бычысе, Езярышчы.

**Леанід Гаравы, 7 ліпеня**

ФІНАНСАВЫ КРЫЗІС

# УСЁ ГЛЫБЕЙ ЗАЛЕЗАЮЦЬ У ДАЎГІ

**Арганізацыі і прадпрыемствы Гарадоччыны ўсё больш і больш набіраюць крэдытаў і пазыкаў, якія сваечасова не сплачваюць. Прычым па ўдзельнай вазе пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці Гарадоцкі раён уваходзіць ў ТОП-10 самых ненадзейных крэдытавяртальнікаў краіны**

Пачаўшыйся фінансавы год для Гарадоцкага раёна характарызаваўся далейшым ростам крэдыторскай запазычанасці. Гэта запазычанасць вырасла са студзеня з 310,4 млрд. рублёў да 348,5 млрд. рублёў пры тым, што яшчэ ў траўні 2012 года яна была 214,7 млрд. рублёў.

Трэба адзначыць, што гэты рост запазычанасці характэрны для ўсёй Беларусі і амаль усіх яе рэгіёнаў. Пры гэтым аказваецца, што адбываецца таксама рост і пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці, калі атрыманыя і праедзеныя крэдыты не вяртаюцца ў дамоўлены тэрмін. І ў гэтай сумнай намінацыі, як кажуць Гарадоцкі раён, наперадзе амаль краіны ўсёй.

Калі за апошні год па краіне рост пратэрмінаванай запазычанасці склаў амаль 50%, то па нашаму раёну на 355%: з 24,735 млрд. да 87,774 млрд.

Яшчэ больш негатыўная тэндэнцыя заключаецца ў тым, што ўдзельная вага пратэрмінаванай запазычанасці ў агульным вяртанні крэдытаў і пазыкаў па Гарадоцкага раёну дасягнула 25,2%. Большая ўдзельная вага пратэрмінавання крэдытаў толькі ў Вушацкім і Шумілінскім раёнах Віцебшчыны, Быхаўскім з Магілёўшчыны, а таксама ў Клецкім, Крупскім, Вілейскім, Любаньскім, Стаўпцоўскім, Вуздзенскім раёнах Міншчыны.

У гэтай пратэрмінаванай запазычанасці значную частку склалі даўгі па падатках і зборах, сацыяльнаму страхаванню, якія выраслі за год амаль у 14(!!) разоў: з 349 млн. руб. да 4825 млн. рублёў. Пры такім фінансавым становішчы раёна малаверагодна, што будзе прынята палітычнае рашэнне аб правядзенні Дажынак 2014 года ў Гарадку. А таму няма ніякага сэнсу чапаць рынак прыватных прадпрымальнікаў, як мінімум у гэтым годзе.

**Леанід Гаравы**

ДАБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# З РЭКАНСТРУКЦЫЯЙ МОГІЛАК ЗНІКНЕ ПЛОШЧА ЛЕНІНА

**Пасля святкавання 3 ліпеня актывізавалася праца па рэканструкцыі вайсковых могілак і цэнтральнай плошчы Гарадка.**

З нагоды 70-ай гадавіны вызвалення Гарадка, якая будзе адзначацца 24 снежня, выдзелены бюджэтныя сродкі на рэканструкцыю вайсковых могілак "Неўміручасць", якія размешчаны ў цэнтры Гарадка. Засваенне гэтых сродкаў – больш васьмі мільярдаў рублёў пачалося напрыканцы чэрвеня, а актывізавалася пасля святкавання 3 ліпеня.

На гэтым тыдні канчаткова ліквідавана бетоннае агароджа вакол могілак, а таксама вынялі бетонную плітку на могілках. Адначасова з рэканструкцыяй могілак адбудзецца і рэканструкцыя плошчы імя Леніна ў Гарадку, на якой пачалі здымаць асфальт.

Дакладней, гэта будзе ўжо цэнтральная плошча Гарадка, з якой будзе прыбраны помнік правадыру кастрычнікага перавароту Уладзімеру Леніну. Для помніка Леніна ўжо рыхтуецца месца каля Школы мастацтваў, дзе раней месціўся райкам КПБ.

Па плану рэканструкцыі плошчу Леніна і мемарыяльны комплекс "Неўміручасць" плануецца падзяліць зялёнай зонай. Замест жалезабетоннай агароджы мемарыяльнага комплексу з'явіцца металічная. Пры гэтым зменіцца і планіроўка пешаходных дарожак мемарыяла, якія набудуць форму круга. У традыцыі сучаснага дабраўпарадкавання мемарыял і плошча будуць выкладзеная пліткай.

Пры ўсіх гэтыхператварэннях новую рэканструкцыю цэнтра сапсуе будынак былога кінатэатра "Радзіма", які ужо амаль два дзесяцігоддзі знаходзіцца ў аварыйным стане. І калі пачнецца яго мадэрнізацыя, то хутчэй за ўсё давядзецца зноў псаваць адрэканструяваную плошчу. А гэта ўжо будзе поўнасцю ў савецкіх традыцыях: будаваць, потым ламаць і зноў будаваць.

**Л. Антонаў**

# Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

*************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе стварэцца архіў за мінулыя гады.

*************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ЭКАЛАГІЧНАЯ КАТАСТРОФА

# ПАЛОВІЧЫ-2. ВЁСКА ПОЎНАСЦЮ ЗАХОПЛЕНА БАРШЧЭЎНІКАМ

**Вёска Паловічы ў Гарадоцкім раёне паўтарае лёс вёскі Паўловічы пад Віцебскам, якую ў снежні мінулага года знішчылі дзеля лепшага выгляду пад час падрыхтоўкі да візіта нашага кіраўніка. Толькі нашыя Паловічы знішчае баршчэўнік.**

Баршчэўнік Сасноўскага на тэрыторыі Гарадоцкага раёна вальготна адчувае ўсе апошнія гады, калі з ім быццам бы распачалася барацьба на дзяржаўным узроўні. Пасля наведвання вёсак Шарыпы, Сечанка, Барысаўка, якія ўзяты ў палон баршчэўнікам, давялося зрабіць вандроўку ў эпіцэнтр распаўсюду баршчэўніка на Гарадоччыне – вёску Паловічы Стадалішчанскага сельсавета.

Вёска Паловічы месціцца каля дарогі, якая злучае межанскую трасу з в. Кажэмякі, што каля Вархоў. Паварот на Паўловічы адразу сведчыць, што баршчэўніку тут вальготна – злева і справа ўздоўж дарогі буяе баршчэўнік на працягу некалькіх кіламетраў. Таксама баршчэўнік высіцца і на зернавых палях"Улішцы-Агра", быццам бы дэманструючы сваю перавагу над тутэйшымі зернавымі.

Сама вёска Паловічы сустракае джунглямі баршчэўніка, які вышэй чалавечага росту і месціцца з двух бакоў вясковай вуліцы. Большасць дамоў у вёсцы пакінута, бо захоплена баршчэўнікам. Але ў вёсцы яшчэ застаўся адзін жылы і адзін дачны дом, дзе ёсць чалавечае жыццё.

Дом дачнікаў быў зачынены, а мясцовая пенсіянерка распавяла пра сваё незайздроснае жыццё сярод баршчэўніка і без.... вады.

Ніна Іванаўна Ш. яшчэ памятае тыя часы ў 60-80-е гады мінулага стагоддзя, калі на сортавыпрабавальным участку саўгаса "Смалоўка" праводзіліся доследы з рознымі сартамі зернавых і гародніны наконт іх прыстасаванасці да тутэйшай зямлі. Менавіта тады і быў закладзены дослед з 6 грамамі семян баршчэўніка мясцовымі аграномамі. Новая расліна здзівіла сваімі памерамі і здольнасцю да зімоўкі. Пасля першага года вырошчвання баршчэўніка Сасноўскага займець яго семена для кармлення кароў пажадаліменогія сельчане. І хутка баршчэўнік распаўсюдзіўся ў навакольных вёсках, толькі малако пасля кармлення баршчэўнікам стала смярдзець гноем. Ад кармлення баршчэўнікам адмовіліся, але ён стаў распаўсюджвацца ў ваколіцах Паўловіч самастойна, дамінуючы над тутэйшымі раслінамі.

Толькі баршчэўнік не адзіная бяда, якую маюць пенсіянеры з Паловіч, якія амаль па сорак гадоў адпрацавалі ў сельскай гаспадарцы. Другая бяда ў пенсіянераў з вадой, бо яе даводзіцца вазіць на кані з крыніцы, якая месціцца на адлегласці паўтара кіламетра ад вёскі. І аказваецца, што ўжо не пасілам нарыхтаваць кармоў на зіму і на карову, і на каня, а мясцовае кіраўніцтва ў гэтым годзе ніяк не выдзеліць некалькі цюкоў сена, каб гаспадар мог зімой у сцюжу на кані вазіць ваду да хаты.

Ніна Іванаўна добрым словам успамінала намесніцу старшыні Гарадоцкага райвыканкама Бурунову Н.А., якая мінулым летам некалькі тыдняў патрабавала ад мясцовага кіраўніка сельгаспрадпрыемства, каб ён прыняў меры для барацьбы з баршчэўнікам і дапамог пенсіянерам з сенам. У гэтым годзе такая дапамога патрэбна яшчэ больш, бо зімой раптоўна памёр іх саракагадовы сын, які увесь час дапамагаў з гаспадаркай.

Безумоўна, пры наяўнасці біялагічнага чарнобыля ў Паўловічах і немагчымасці яго ліквідацыі з боку мясцовай гаспадаркі было б гуманным крокам мясцовай улады прадастаўленне жыхарам Паўловічаў жылля там, дзе не пануе баршчэўнік або на крайні выпадак вырашэнне праблемы з сенам.

**Леанід Гаравы, 20 ліпеня**

ЧАРГОВЫ ЖАХ

# АСУДЖАНЫ ГВАЛТАЎНІК БАБУЛЬ

**Суд Гарадоцкага раёна пакараў гвалтаўніка-рэцыдывіста, які згвалтаваў двух жанчын 69-ці і 84-х гадоў.**

Паводле інфармацыі старшага памочніка пракурора Гарадоцкага раёна Арцёма Заікіна, размешчанай на сайце Гарадоцкага райвыканкама gorodok.vitebsk-region.gov.by/ru/vlast/prokuratura/news_prokur , у сценах суда Гарадоцкага раёна ў закрытым судовым пасяджэнні завершаны разгляд гучнай крымінальнай справы аб блюзнерскіх злачынствах дваццацідзевяцігадовага мала-дога чалавека, які згвалтаваў двух пажылых жанчын.

Гэты малады чалавек, пасля заканчэння 9 класаў, нідзе не працаваў і не вучыўся, бадзяўся, паспеў набыць не адну судзімасць за ўчыненне розных злачынстваў, тры разы адбываў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі.

Выйшаўшы ў чарговы раз на свабоду, рэцыдывіст працягваў разгульны лад жыцця, злоўжываў спіртнымі напоямі. Сёння не зразумела ад чаго малады чалавек амаль страціў розум, бо пачаў тварыць зусім дзікія рэчы.

Знаходзячыся ў адной з вёсак Гарадоцкага раёна, злачынец пастукаў у дзверы да адзінокай бабулькі, 1944 года нараджэння. Зайшоўшы ў хату да яе, папрасіў яго пакарміць. Адзінокая бабулька, баючыся за сваё жыццё, пакарміла незнаёмца. Але той запатрабаваў даць яму яшчэ грошай на спіртное. Грошай не аказалася, і тады рэцыдывіст паведаміў ахвяры аб намеры ўступіць з ёй у палавую сувязь. Пагражаючы забойствам, падавіўшы супраціў пацярпелай і ужываючы фізічны гвалт, ён здзейсніў згвалтаванне.

Праз некаторы час злачынец знаходзіўся ўжо ў іншай вёсцы, дзе хутка пазнаёміўся з сабутыльнікамі па распіванні спіртных напояў. У аднаго з іх Іван папрасіў даць прытулак на начлег. Прачнуўшыся раніцай у адсутнасці лагоднага гаспадара, ён выкраў з яго дома грашовыя сродкі, а таксама пачаў прыставаць да яго бабулі, 1929 года нараджэння. Так рэцыдывіст, ужываючы гвалт і пагрозы, зноў згвалціў бабулю і здзейсніў з ёй іншыя дзеянні сэксуальнага характару.

Схаваўшыся з месца злачынства, на гэты раз ён быў хутка знойдзены супрацоўнікамі міліцыі. У дачыненні да крымінальніка была ўзбуджаная крымінальная справа па 4 артыкулах КК Рэспублікі Беларусь: па ч. 2 арт. 205( Крадзёж), ч. 1 арт. 166, ч. 2 арт. 166( Гвалтаванне), ч. 2 арт. 167(Гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару).

На працягу папярэдняга расследавання і ў судовым пасяджэнні рэцыдывіст катэгарычна адмаўляў сваё дачыненне да здзяйснення усіх злачынстваў, але існуючыя ў крымінальнай справе доказы, абвяргалі яго довады аб невінаватасці.

Прысудам суда Гарадоцкага раёна гвалтаўніку прызначана пакаранне ў выглядзе 11 гадоў пазбаўлення волі з магчымых 13 гадоў.

**Л. Антонаў**

БЕЗГАСПАДАРЧАСЦЬ

# КЕПСКАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ АДХОДАЎ

**За апошнія гады на Гарадоччыне значна зменшылася выкарыстанне адходаў вытворчасці**

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў даныя аб ахове навакольнага асяроддзя краіны. Прыведзеныя даныя сведчаць, што па краіне назіраецца рост адходаў вытворчасці ў тым ліку і небяспечных. З 2005 году на Беларусі адбылося павелічэнне небяспечных адыходаў вытворчасці з 192 млн. тон да 943 млн. тон у 2011 годзе – больш чым у 4,5 раза.

Пры гэтым адбыўся і рост простых адходаў вытворчасці па краіне і Віцебшчыне, але ў Гарадоцкім раёне адбылося скарачэнне адходаў вытворчасці з 4,3 тыс. тон у 2005 годзе да 2,4 тыс. тон у 2011 годзе.

Але для бяспечнай экалогіі істотна выкарыстанне гэтых адходаў, іх перапрацоўка. І па гэтаму паказчыку прадпрыемствы і арганізацыі Гарадоцкага раёна спрацавалі ў 2011 годзе значна горш, чым раней. Калі ў 2005 годзе была выкарыстана амаль палова адходаў – 2,1 тыс. тон, то ў пазамінулым годзе толькі восьмая частка -- 300 тон з 2400т адходаў вытворчасці. Яшчэ горш працуюць з адходамі вытворчасці ў Шаркаўшчынскім, Докшыцкім раёнах, дзе выкарысталі толькі па 100 тон адходаў і зусім не займаліся адходамі ў Бешанковіцкім раёне.

**Л. Антонаў**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР!

# ПУСТУЮЧАЯ ЗЯМЛЯ ПАТРЭБНА ГРАМАДЗЯНАМ, А НЕ ЧЫНОЎНІКАМ

**Жыхары мікрараёна Гагарына, якія займаліся агародніцтвам каля АЗС "Лукойл" і гатэля "Раубічы" за скрухай назіраюць, як заняліся пустазеллем іх былыя агароды**

Пасля абвяшчэння намеру старшыні Віцебскага аблвыканкама Аляксандра Косінца правесці ў Гарадку рэспубліканскія Дажынкі-2014 мясцовая землеўпарадкавальная служба вырашыла спыніць землекарыстанне грамадзянаў на палетках каля АЗС "Лукойл" і гатэля "Раубічы", што ў мікрараёне вул. Гагарына.

Пры гэтым ніякага пісьмовага папярэджання па вясне аб спыненні працы на гэтых агародах грамадзяне не атрымалі. Але размовы аб ліквідацыі гэтых палеткаў вымусіла грамадзян у красавіку звяртацца да старшыні Гарадоцкага райвыканкама Васіля Муранкова з просьбай аб захаванні гэтых палеткаў. Старшыня падцвердзіў пазіцыю ўладаў аб ліквідацыі гэтых палеткаў і паабяцаў прадставіць зямлю для агародніцтва. Зямля была прадстаўлена на ... пясках каля штушкафабрыкі на адлегласці два км, замест ранейшых 200 м за АЗС.

Пры гэтым аргументы, што старым людзям, якія з палачкай даходзілі да агарода, да такога поля не дабрацца да ўвагі прыняты не былі. У выніку гэтага сілавога рашэння з амаль 50 былых землекарыстальнікаў, якія спраўна плацілі падаткі апрацоўваць новыя участкі пагадзіліся толькі каля 10 больш маладых грамадзян. Яшчэ шэсць чалавек на законных падставах працягнулі вырошчваць бульбу і агародніну на сваіх участках, якія апрацоўвалі амаль чвэрць стагоддзя.

Незадаволеныя грамадзяне скардзіліся і ў аблвыканкам, і на "Гарачую лінію" аб валюнтарызме мясцовых чыноўнікаў. Але час пасадак прайшоў і адзінае, што яны атрымалі -- быццам бы вымова мясцовай чыноўніцы, якая парушала заканадаўства аб неабходнасці пісьмовага паведамлення аб ліквідацыі участкаў.

Відавочна, што ўлада нічога бы не страціла, калі дазволіла бы паўсотні грамадзян прыкладаць свае намаганні на ранейшых агародах, бо гэта добрая падтрымка да невялікага бюджэту людзей сталага ўзросту. Толькі такое магчыма было б, калі гэтая ўлада была адказна перад грамадзянамі, а не вышэйстаячым кіраўніцтвам.

**Л. Антонаў**

ФУТБОЛ

# ШУМІЛІНЦЫ ДАЛІ ЎРОК АРГАНІЗАЦЫІ ФУТБОЛЬНАЙ СПРАВЫ

**У апошнім туры першага круга чэмпіяната Віцебскай вобласці (другая ліга, група Б) гарадоцкі "Прамень" на сваім полі згуляў з ФК "Шуміліна" ў нічыю.**

Апошняя гульня з першага туру дазваляла гарадоцкім футбалістам пры іх перамозе падняцца з пятага месца на другое. Але дзевяноста хвілін барацьбы не выявілі пераможцаў. Пры гэтым большую частку другога тайма нашы футбалісты гулялі ў меншасці ў выніку выдалення Вячэслава Мочкіна за спрэчку з суддзёй. Выдаленне адбылося пасля таго, як лік у матчы стаў 2:2 і парушэнне правілаў суддзя зафіксаваў у непасрэднай блізкасці ад нашай штрафной пляцоўкі.

Увесь першы тайм ініцыятывай валодалі футбалісты "Праменя", якія прыціснулі шумілінцаў да іх варот. Але пры магчымасці нашы суседзі атакавалі востра, выкарыстоўваючы ў першаю чаргу магчымасці свайго форварда Стаса Прасветава. Менавіта ён ужо на 8-й хвіліне гульні забіў гол.

Гэты гол выклікаў вялікае задавальненне ў шумілінскіх заўзятараў футбола, якіх на стадыёне было больш, чым аматараў "Праменя". Наогул, трэба адзначыць, што на выязную гульню прыехала падтрымаць свой клуб больш 50-ці шумілінцаў. Акрамя радасці выказваемай праз гукаўзмацняльнік на трыбуне гасцей быў запалены файер, якім размахвалі каля спартыўных сцягоў клуба.

Наогул па экіпіроўцы, арганізацыі працы з заўзятарамі шумілінцы далі ўрок спартыўным чыноўнікам Гарадка, бо большасць гульцоў нашай каманды гуляла ў майках без нумароў. І толькі па тварах магчыма было іх адрозніць. Ды і аматары нашай каманды былі неарганізаваны і іх амаль не было чуваць.

Асноўныя падзеі разгарнуліся на пачатку другога тайма, калі шумілінцы давялі лік да ганебнага для гаспадароў 2:0. На працягу пяці хвілін футбалісты "Праменя" урэшце-рэшт дадалі вастрыні сваім атакам і зраўнялі лік. Гэты лік, нягледзячы на гульню ў меншасці, так і захаваўся да канца гульні.

Нічыя не дазволіла нашым футбалістам падняцца вышэй ў турнірнай табліцы, пакінуўшы іх на непрыстойным пятым месцы – 8 ачкоў, за якім размясціліся толькі каманды з аграгарадкоў Плоскае (Талачынскі р-н) і Ноўка (Віцебскі р-н). Нічыя таксама не дазволіла ФК "Шуміліна" выйсці на другое месца па ачках, а толькі падзяліць яго з камандай "Алімп" (Чашнікі) – 10 ачкоў. А на першым месцы ўпэўнена размясцілася каманда "Дынама" (Лёзна) – 16 ачкоў.

**Л. Антонаў**

НАШ СВЕТ

# БЕЛАРУСЫ СЬВЕТУ НАГАДАЛІ ПРА ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

**У Менску завяршыўся Шосты зьезд беларусаў сьвету, арганізаваны Згуртаваньнем беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». У заключных дакумэнтах форуму ўдзельнікі заклікалі ўлады краіны бараніць нацыянальную мову і культуру, падтрымліваць беларусаў у замежжы і вызваліць палітвязьняў у Беларусі.**

Другі дзень Шостага зьезду беларусаў сьвету распачаўся з таго, што дэлегаты распавядалі пра досьвед жыцьця і дзейнасьці беларускіх супольнасьцяў у сваіх краінах, а таксама аб праблемах сувязі беларусаў замежжа з уладамі Беларусі. Сярод іншых — кіраўніца беларускай супольнасьці ў польскім Гданьску Алена Глагоўская: «Для беларусаў Польшчы цяпер ёсьць асноўная праблема. Ня ведаю, чым гэтак не дагадзілі ўладам Беларусі, але ня ўсе тут ёсьць. Да прыкладу, мой сябар Яўген Вапа — старшыня беларускага зьвязу ў Польшчы, галоўны рэдактар газэты „Ніва" і дырэктар „Радыё Рацыя" — неўязны ў Рэспубліку Беларусь. Ягоная непрысутнасьць тут шмат пра што кажа. І ўезд беларусаў Польшчы, якія цяпер тут, таксама да апошняга моманту стаяў пад знакам пытаньня. Калі чалавек увесь дзень мусіць правесьці ў консульстве ў чаканьні таго, што нехта дасьць дазвол паехаць на Шосты зьезд беларусаў ці не, то гэта адназначны паказчык стаўленьня да беларусаў за мяжой, у гэтым выпадку — у Польшчы».

Пра тое, што афіцыйныя ўлады дзеляць беларусаў на «сваіх» і «чужых» ня толькі ў Беларусі, але і за межамі краіны, казалі многія прадстаўнікі нацыянальных суполак. У тым ліку — прэзыдэнт таварыства беларусаў Эстоніі Ніна Савінова: «Да прыкладу, цягам апошніх трох гадоў я адчуваю такую зьнявагу з боку беларускага дыпляматычнага корпусу ў Эстоніі, што я зьвярнулася да Лукашэнкі з запытам: ці гэта ёсьць пазыцыя дзяржавы да беларусаў замежжа? Гэта жах, проста жах! Яны выяжджаюць на шыкоўных аўтамабілях, маюць добры аклад, маюць вялікі штат супрацоўнікаў. Дык чаго вы сюды прыехалі? Адседзець свой тэрмін і паглядзець, у якую багацейшую краіну паехаць? Ведаеце, гэта гвалт, проста гвалт».

Адначасна прадстаўнікі беларускіх суполак з Крыму і Малдовы выказалі падзяку афіцыйным беларускім уладам, прамаўляючы па-расейску, а таксама ўхваляючы расейска-беларускае двумоўе. Былы старшыня Вярхоўнага Савету і ўдзельнік ранейшых зьездаў беларусаў сьвету Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што ў гэтым сэнсе цяперашні зьезд стаўся адрозным ад усіх папярэдніх: «Я ў пэўнай роспачы, бо тут вельмі шмат людзей, якія ня ведаюць, што адбываецца ў Беларусі. У нядаўнім мінулым яны — этнічныя беларусы, і сталі гэткімі антыбеларускімі, што мне сорамна за іх. Выніковыя дакумэнты падрыхтаваныя нядрэнна, але і тут ёсьць недахопы. Бо калі, да прыкладу, пішацца пра вызваленьне палітвязьняў, але ня пішацца пра тое, што іх неабходна цалкам рэабілітаваць, то гэта азначае, што і тут, на месцы, мы забыліся, хто і чаму пакуты за нас прымае. А мы сядзім, праводзім зьезд і пляскаем у далоні трывіяльным і прымітыўным выступам. Мне падаецца, што трывіяльшчыны на гэтым зьезьдзе больш, чым на ўсіх папярэдніх разам узятых».

У другі дзень зьезду працавалі і сэкцыі, якія мелі на мэце выпрацоўку адзінага падыходу да вырашэньня шэрагу праблемаў, характэрных як для нацыянальных суполак замяжой, так і для беларусаў на радзіме: асыміляцыя, пераемнасьць пакаленьняў, адсутнасьць дзяржаўнай падтрымкі. Акрамя праблемаў, удзельнікі форуму дзяліліся і аптымізмам, як іркуцкі беларус Алег Рудакоў: «Першае і галоўнае — мы сабраліся разам і мусім усьвядоміць, што мо хопіць жаліцца на нейкія цяжкасьці. Мы ў Іркуцку ня маем падтрымкі ні ўладаў Беларусі, ні ўладаў Іркуцку, тым ня менш мы жывём і дзейнічаем. Проста трэба быць пасіянарнай асобай, прысьвяціць і ахвяраваць частку свайго жыцьця агульнай справе».

Вынікам Шостага зьезду беларусаў сьвету сталася прыняцьцё шэрагу рэзалюцыяў і зваротаў да ўладаў Беларусі, у тым ліку — аб захаваньні гісторыка-культурнай спадчыны, беларускай мовы, аб законе ў абарону беларусаў замежжа, а таксама аб вызваленьні палітычных вязьняў. Аднак невядома, ці будуць гэтыя дакумэнты ўспрынятыя афіцыйнымі ўладамі краіны, кажа дэлегат зьезду Лявон Баршчэўскі: «Беларускае грамадзтва і ўлады жывуць у паралельных прасторах і плоскасьцях. І тое, што сюды прыйшоў міністар культуры сказаць правільныя рэчы, то гэта ніяк не закранае тыя праблемы, якія насамрэч існуюць. А менавіта — сытуацыя ўнутранай асыміляцыі беларусаў. Калі тут будуць зьнікаць асновы беларускай культуры і беларуская мова, то як яны могуць быць захаваныя ў дыяспары? І гэта праблема. Яна найважнейшая, і зьезд ня можа дапамагчы яе вырашыць. Галоўнае з усяго — наколькі хто-небудзь з уладаў прыслухаецца да таго, што дэлегаты зьезду скажуць».

Сёмы зьезд беларусаў сьвету, паводле традыцыі, мае адбыцца ў Менску праз чатыры гады.

**Галіна Абакунчык**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ПЫТАННІ «НАРОДНАГА РЭФЕРЭНДУМУ» СФАРМУЛЮЮЦЬ УВОСЕНЬ

**Пытанні, якія можна вынесці на абмеркаванне «Народнага рэферэндуму», будуць апублікаваныя ў сярэдзіне верасня, паведаміў БелаПАН намеснік старшыні кампаніі «Гавары праўду!» Андрэй Дзмітрыеў.**
**Нагадаем, ініцыятарамі "Народнага рэферэндуму" выступілі кампанія "Гавары праўду!", Рух "За Свабоду" і Партыя БНФ.**

"За два месяцы мы аб'ехалі 13 гарадоў, у якіх сустрэліся і пагутарылі прыкладна з тысяччу чалавек. У планах — да канца лета аб'ехаць яшчэ сем гарадоў", — паведаміў Дзмітрыеў. Паводле яго слоў, ужо бачныя тэмы, якія "людзей па-сапраўднаму хвалююць".

Сярод такіх пытанняў Дзмітрыеў вылучыў тры. Па-першае, гэта пытанне якасці і даступнасці медыцынскага абслугоўвання. Па-другое, магчымасць нармальна працаваць і зарабляць грошы. "Людзі кажуць, што эканамічныя свабоды і ініцыятывы заціснуты, што дзяржава думае не пра тое, каб дапамагчы ім зарабіць, а пра механізм выціскання грошай", — сказаў палітык.

Па-трэцяе, гэта пытанне непадкантрольнасці ўладаў. "На думку людзей, чыноўнікі ўспрымаюць сваю працу як прыступку да лепшай, яны імкнуцца паказаць сябе добрымі больш высокаму кіраўніцтву ў Мінску, а не клапоцяцца пра развіццё рэгіёнаў і іх інфраструктуры. Людзі дастаткова выразна называюць такіх прадстаўнікоў улады дачаснікамі", — зазначыў Дзмітрыеў.

3 палітычных пытанняў, якія, на думку людзей, могуць быць вынесены на "Народны рэферэндум", Дзмітрыеў назваў абмежаванне тэрмінаў прэзідэнцтва і вяртанне да рэальных паўнамоцтваў парламента і незалежнасці выбарчай сістэмы. Праўда, зазначыў ён, гэтыя пытанні больш хвалююць актывістаў дэмакратычных арганізацый.

Паводле слоў намесніка старшыні руху "За Свабоду" Юрыя Губарэвіча, апошнім часам людзі сталі больш адкрыта ісці на кантакт з апазіцыяй. "Калі раней да прадстаўнікоў апазіцыі простыя людзі ставіліся з асцярогай, то зараз бачыць у іх тых, хто гатоў узнімаць пытанні, што іх хвалююць. Так што, лічу, перспектывы ў "Народнага рэферэндуму" неблагія", — сказаў ён.

**Прэс-служба**
**Руху "За свабоду!"**

ФІНАНСАВЫЯ ПРАБЛЕМЫ

# «ДЭВАЛЬВАЦЫЯ РУБЛЯ Ў МЕЖАХ 10% НЕПАЗЬБЕЖНАЯ»

**9 ліпеня курс даляра на Беларускай валютна-фондавай біржы абнавіў гістарычны максімум**

Радые Свабода запыталася ў эканамістаў, ці есьць прычыны чакаць аслаблення беларускага рубля?

Экспэрт Беларускага эканамічнага дасьледча-адукацыйнага цэнтру Зьміцер Крук лічыць, што на стан рубля ўплываюць некалькі тэндэнцыяў:

— Перадусім гэта пагаршэньне сытуацыі на зьнешніх рынках. Сальда замежнага гандлю — з дэфіцытам. Пагоршылася каньюнктура на расейскім рынку, бо запаволіліся тэмпы росту ў Расеі. І гэта нэгатыўна ўплывае на беларускі экспарт. Другі чыньнік — унутраная эканамічная палітыка. Мне яна нагадвае палітыку ў першай палове 2009 году. І хоць попыт ня рос, адбываўся рост выпуску прадукцыі. Так і цяпер. Гэта вядзе да павялічэньня зьнешнегандлевага дэфіцыту і росту напругі на валютным рынку.

Эканаміст Сяргей Чалы дадае яшчэ адзін чыньнік — мадэрнізацыя беларускай прамысловасьці, якая вядзе да росту інвэстыцыйнага імпарту (1 млрд даляраў за першыя пяць месяцаў). А гэта аказвае ціск на бягучы рахунак плацежнага балянсу.

Прагнозы экспэртаў не апакаліптычныя, аднак і ня надта суцяшальныя. Зьміцер Крук лічыць:

— Нацбанк будзе максымальна стрымліваць аслабленьне рубля. Аднак, з улікам аслабленьня расейскага рубля, дэвальвацыя беларускага рубля ў межах 10% непазьбежная.

З ім згодны Сяргей Чалы:

— Для эканомікі было б карысна расьцягнутае ў часе аслабленьне беларускага рубля. Але Нацбанк баіцца, і цалкам справядліва, што гэта прывядзе да панічных настрояў сярод насельніцтва. Таму да канца году аслабленьне рубля складзе 10–15% ад цяперашняга ўзроўню. І гэта прыкладна супадае з высновай МВФ наконт таго, наколькі абменны курс рубля завышаны адносна свайго раўнаважнага значэньня.

Нагадаем, што Міжнародны валютны фонд у справаздачы пра стан беларускай эканомікі прыйшоў да высновы, што курс рубля завышаны на 11%.

9 ліпеня курс даляра на Беларускай валютна-фондавай біржы абнавіў гістарычны максімум. За 1 USD давалі 8860 рублёў.

**gazetaby.com/cont/art.php**

БЕЛАРУСЬ-КІТАЙ

# О ЧЕМ УМОЛЧАЛИ ЛУКАШЕНКО И ТОЗИК

**«Мы когда-то мечтали о том, чтобы достичь товарооборота в 500 миллионов долларов между двумя государствами. Сегодня мы уже вертимся возле цифры 3 миллиарда. Это огромный прогресс», – заявил Александр Лукашенко в интервью агентству Синьхуа.**

Вот только, если разложить всё по полочкам, вырисовывается отнюдь не блестящая для Беларуси картина. Предыдущий визит Лукашенко в Пекин состоялся в 2010-м. Вот и посмотрим на внешнеторговую динамику за последние три года.

Экспорт Беларуси в КНР
2010 г. – 475,8 млн долларов
2011 г. – 636,6 млн долларов
2012 г. – 433,6 млн долларов

То бишь по итогам прошлого года наш экспорт в Китай рухнул почти в полтора раза. Более того, он не дотянул даже до показателей двухлетней давности.

Экспорт КНР в Беларусь
2010 – 1,683,4 млн долларов
2011 – 2193,9 млн долларов
2012 – 2367,9 млн долларов

Зато китайский экспорт в нашу страну уверенно растет, а с ним и отрицательное для Беларуси сальдо в торговле с Поднебесной. Почему это происходит, говорилось уже не раз. Так что, просто констатируем: фокус с товарооборотом кроется в том, что Беларусь стала еще одним рынком для китайской продукции. Не Бог весть какое достижение. А если учесть, что, например, качество оборудования, поставляемого китайцами, вызывало нарекания даже у Сергея Сидорского в бытность его премьер-министром, можно констатировать, наша страна больше теряет, чем выигрывает, от такого «стратегического партнерства».

Кстати, как сообщает БЕЛТА, вице-премьер Анатолий Тозик заявил, что во время нынешнего официального визита Александра Лукашенко в КНР планируется заключить контрактов и соглашений на 1,5 миллиарда долларов. Сумма даже по меркам Беларуси не ахти, а для Китая вообще смешная. Кстати, во время предыдущего визита Лукашенко в Пекин были завизированы проекты на 3,5 миллиарда долларов.

Но дело даже не в том, что на этот раз сумма оказалась в два с лишним раза меньше. Проблема в другом.

Министр промышленности Беларуси Дмитрий Катеринич подробно отчитался в Пекине перед журналистами о том, что можно записать в актив нашей экономике. Накануне визита заключен договор на поставку карьерной техники на 9 миллионов долларов. Планируется подписать контракт на поставку в Китай БелАЗов и запасных частей на 12 миллионов долларов. Уже есть соглашения на поставку 350 энергонасыщенных тракторов, различных комбайнов. Общую сумму Катеринич на тот момент оценил в 70 миллионов долларов.

Понятно, что в ходе визита будут подписаны и другие контракты. Но на основе сказанного можно прогнозировать, что белорусы продадут китайцам своей продукции миллионов этак на 200 плюс-минус. А львиная доля от 1,5 миллиардов – это то, что КНР втюхает нам, еще больше увеличив отрицательное внешнеторговое сальдо РБ. Но об этом и Лукашенко, и Тозик предпочли умолчать.

А победные реляции об «огромном прогрессе» смахивают на «утку по-пекински». «Утку» не в кулинарном, а в журналистском смысле слова. На деле же всё идет к тому, что очередной «китайский прорыв» превратится в провал.

**Вадим Ливнев**

НАША ЎЛАДА

# «СУКІН СЫН», УЗГАДАВАНЫ КРАМЛЁМ

**19 гадоў таму — 20 ліпеня 1994-га — учорашні дырэктар саўгасу «Гарадзец» на Шклоўшчыне і дэпутат Вярхоўнага Савету Аляксандар Лукашэнка пад бел-чырвона-белым сьцягам і на трыбуне з «Пагоняй» прынёс прысягу ў якасьці першага прэзыдэнта незалежнай Беларусі.**

Амаль два дзясяткі гадоў на чале дзяржавы зрабілі Лукашэнку палітычным доўгажыхаром. Што дазваляе Лукашэнку так доўга кіраваць краінай, ня гледзячы на непрыхаванае жаданьне вярнуцца ў «сьветлае савецкае мінулае»? Меркаваньне публіцыста, палітоляга Аляксандра Класкоўскага: «Шмат фактараў можна назваць. Канечне, нельга адмовіць Лукашэнку ў харызьме, у таленавітым папулізьме. Але калі усё груба зводзіць да двух фактараў, я б назваў, па-першае, нямераную падтрымку Расеі, якая ўвальвае ў рэжым проста шалёныя грошы. Пры тым, што паміж Масквой і Менскам пэрыядычны здараюцца канфлікты, гандлёвыя і інфармацыйныя войны, але ў рэшце рэшт усё адбываецца паводле аднаго прынцыпу — „няхай сукін сын, але наш сукін сын". Гэты прынцып працягвае дзейнічаць і цяпер. І я думаю, што Пуцін дзеля стварэньня эфэмернага Эўразійскага саюзу выдаткуе для Лукашэнкі чарговую грашовую пайку — ужо фактычна пад прэзыдэнцкія выбары 2015 года. А другі фактар палягае ў тым, што ў Беларусі практычна падчыстую выпаленае палітычнае поле. Харызма-не харызма, але калі дубінкай па галаве апазыцыя пастаянна атрымлівае, абывацель застрашаны, то рэвалюцыю тут, груба кажучы, не распачнеш».

10 ліпеня 1994 году Аляксандар Лукашэнка выйграў прэзыдэнцкія выбары ў другім туры. У фінале «барацьбіт з карупцыяй» без асаблівых праблемаў адолеў тагачаснага прэм'ер-міністра краіны Вячаслава Кебіча. Празь 10 дзён у Авальнай залі парлямэнту адбылася ўрачыстая інаўгурацыя першага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Як аказалася, пакуль што і адзінага.

Выкарыстоўваць высокае становішча ў карысьлівых мэтах Лукашэнка пачаў літаральна зь першых гадоў прэзыдэнцтва. Шэраг ініцыяваных ім рэфэрэндумаў быў умела абгорнуты такім чынам, што гэта не ён сам захацеў, а «народ» даў яму карт-блянш выбірацца на вышэйшую пасаду неабмежаваную колькасьць разоў, дазволіў яму зьмяняць гістарычныя сымбалі на савецкія, ня пярэчыў, каб загнаць у моўную рэзэрвацыю беларускую мову.

Далей — больш, але ўжо без асаблівай траты часу на парады з народам. Практычна поўнае вынішчэньне іншадумства, абяскроўліваньне незалежных СМІ і трэцяга сэктару, тэрміны зьняволеньня для апанэнтаў, загадкавыя зьнікненьні і сьмерці вядомых палітыкаў, грамадзкіх дзеячаў, журналістаў.

**Ігар Карней**

РОСТ КОШТАЎ

# УСЛЕД ЗА ПРАДУКТАМІ МОЖА ПАДАРАЖЭЦЬ БЕНЗІН І КВАРТПЛАТА

**У Беларусі з12 ліпеня даражэюць цукар, хлеб і алкаголь. Эксперт лічыць, што гэта вынік стрыманай ўручную інфляцыі і не апошняе павышэнне коштаў у гэтым годзе.**

Гранічныя максімальныя рознічныя цэны на якія рэгулююцца віды цукру-пяску белага без дадаткаўпавышаюцца ў сярэднім на 5%. Ўстаноўлены гранічныя максімальныя рознічныя цэны на цукар-пясок белы без дабавак вагавы, упакаваны ў мяшкі ад 25 да 50 кг, у 7900 рублёў за 1 кг і на цукар-пясок белы без дабавак, расфасаваны ў спажывецкую ўпакоўку ад 500 г да 1 кг, - у 8400 рублёў за 1 кг.

Як пракаментавалі ў Міністэрстве эканомікі, рашэнне аб павышэнні цэн прынята «з улікам прапаноў канцэрна« Белдзяржхарчпрам »для стабілізацыі фінансавага стану цукраперапрацоўчых арганізацый". Папярэдні раз цэны на цукар падымаліся 24 чэрвеня мінулага года - да 8000 рублёў за 1 кг.

Гранічныя максімальныя адпускныя цэны на якія рэгулююцца групы хлеба і батонаў павышаюцца да 10%. Гаворка ідзе пра хлеб жытні і жытна-пшанічны, булачных вырабах з пшанічнай мукі з утрыманнем цукру і тлушчаў у суме не вышэй за 14%. Дадзенае рашэнне прынята з улікам кампенсацыі падаражэння сыравіны, адзначылі ў Мінэканомікі.

Гранічныя мінімальныя цэны на алкагольную прадукцыю крэпасцю звыш 28% павышаюцца «у сувязі з ростам ставак акцызаў». Лімітавая мінімальная адпускная цана на алкаголь мацункам 40% за 0,5 л павялічана на 25,6% да 27 тыс. рублёў, лімітавая мінімальная раздробны кошт (з ПДВ) - на 28,4% да 38 тыс. рублёў. Лімітавая мінімальная адпускная цана на імпартны алкаголь крэпасцю 40% павышана на 25,6% да 54 тыс. рублёў.

Як адзначыў у каментары для Naviny.by эканамічны эксперт «Ліберальнага клуба» Антон Балточка, чэрвеньскі паказчыкінфляцыіэзусёў0,3% на фоне агульнай коштавай карціны можа казаць пра тое, што«адбываецца стрымліванне коштаў, каб патрапіць у прагнозны паказчык 12% інфляцыі за год ".

«Як толькі паставілі інфляцыю 0,3% за чэрвень, ўбачылі, што ёсць невялікі задзел для таго, каб карэктаваць кошты - павялічыць іх на некаторыя тавары», - адзначыў эксперт.

Пры гэтым Антон Балточка лічыць, што ў рэжыме ручнога кіравання ўлады не ўкладуцца ў прагнозныя 12% інфляцыі. На думку эксперта, па выніках года рост цэн можа скласці каля 15%. За першае паўгоддзе інфляцыя ўжо складае 7%: у студзені - 3%, у лютым - 1,2%, у сакавіку - 1,1%, у красавіку - 0,5%, у маі - 0,7%, у чэрвені - 0,3%.

Прадукты харчавання сталі першай ластаўкай у чарадзе павелічэння цэн, таму што менавіта на гэтыя тавары яны даўно не падымаліся, адзначае Болточко. Далей, лічыць эканаміст, варта чакаць павелічэння коштаў на паслугі ЖКГ, якія часта падымаюцца летам, так як для насельніцтва гэта менш прыкметна, чым зімой. Акрамя таго, рост даходаў насельніцтва - гэта таксама фармальны нагода для росту тарыфаў.

«Улічваючы, што ўзровень тарыфаў на паслугі ЖКГ аказвае істотны ўплыў на ўзровень жыцця насельніцтва, іх павышэнне плануецца вырабляць паэтапна, у ўвязцы з ростам даходаў насельніцтва і адначасовым аказаннем найменш абароненым яго групам дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі для аплаты гэтых паслуг», - заявіў у інтэрв'ю «Народнай газеце» міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркіАндрэй Шорац.

Не выключана, лічыць Антон Болточко, што паднімуцца цэны і на паліва

**Алёна Спасюк**

ТАКОЕ МЕСЦА

# БЕЛАРУСЬ СТАЛА АУТСАЙДЕРОМ СНГ ПО ЭКОНОМИЧЕСКОМУ РОСТУ

**В Беларуси самая высокая инфляция и один из самых низких темпов роста ВВП.**

По данным Статкомитета СНГ, Беларусь оказалась на предпоследнем месте по росту ВВП. За январь-май наша страна валовой внутренний продукт увеличила к аналогичному периоду прошлого года лишь на 1,5%.

Хуже сработала лишь экономика Украины, которая произвела валового продукта даже на 1,1% меньше прошлогоднего показателя. Примерно на одном уровне с Беларусью находится наш главный экономический партнер — Россия: лишь 1,6% прибавки ВВП.

Активнее всего вал нарастил Казахстан — плюс 8,4%, а также Армения (7,5%) и Таджикистан (7,3%).

Индекс потребительских цен, сложившийся за первые 5 месяцев 2013 года на уровне 21,7%, трехкратно превышает средний по СНГ. У других стран он колеблется от 2 до 7%. Только Украине удалось получить инфляционный показатель меньше уровня прошлогоднего периода — на 0,5%.

Несмотря на серьезные экономические проблемы, реальные располагаемые денежные доходы белорусов резко поползли вверх. За январь-май рост составил 20,6%. В России же этот показатель остановился на уровне плюс 4,5%.

**http://news.mail.ru/inworld/belorussia/economics/14039359/?frommail=1**

ПРАБЛЕМЫ ВІЦЕБШЧЫНЫ

# ФАРМІРУЕЦЦА ПІРАМІДА УЗАЕМНЫХ ФІНАНСАВЫХ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВАЎ

**На думку прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча, у Віцебскай вобласці фарміруецца піраміда узаемных фінансавых абавязацельстваў суб'ектаў гаспадарання, якая можа паралізаваць эканоміку рэгіёну.**

Як паведаміла прэс-служба Саўміна, 17 ліпеня члены Прэзідыума Савета міністраў у поўным складзе выехалі ў Віцебск, дзе разгледзелі пытанне выканання Віцебскім аблвыканкамам прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця. Пры гэтым высокі сход больш быў падобнымнаэкстраную нараду з мэтай пошуку магчымых шляхоў выхаду з складанай эканамічнай сітуацыі, у якой апынуўся рэгіён. І дадзеныя аб тым, што па выніках 5 месяцаў 2013 Віцебская вобласць не выканала дзве трацiны асноўных даведзеных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця, толькі меншае з пытанняў.

Паводле дадзеных прэм'ер-міністра, сёння ў рэгіёне больш за 40% усіх арганізацый знаходзяцца ў няўстойлівым фінансавым становішчы.

«Гэта вельмі трывожная сітуацыя», - сказаў Міхаіл Мясніковіч.

На думку прэм'ер-міністра, такая сітуацыя склалася па прычыне непісьменнай фінансавай палітыкі, якая праводзіцца ў Віцебскай вобласці на месцах.

Так, напрыклад, у Віцебскай вобласці атрымала шырокае распаўсюджванне практыка узаемных фінансавых абавязацельстваў, якія растуць як снежны ком, пазбаўляючы арганізацыі абаротных сродкаў і перспектыў развіцця. У першую чаргу гэта тычыцца сельскагаспадарчых арганізацый, дзе запазычанасць вытворцаў пад будучыя пастаўкі малака з тэрмінам больш за год склала 113 мільярдаў рублёў, што складае 56% ад сумы авансавых запазычанасцяў па краіне.

«Вымалёўваецца своеасаблівая піраміда ўзаемных даўгавых абавязацельстваў, якія, калі не прыняць адпаведныя меры, могуць паралізаваць развіццё прадпрыемстваў і вобласці ў цэлым», - заявіўМіхаіл Мясніковіч.

Таксама па дадзеных ўрада, існуе праблемная запазычанасць па крэдытах, выдадзеных банкамі Віцебскай вобласці. Так за студзень-май 2013 года даўгі павялічыліся ў 2 разы і склалі 241млрд. рублёў. Ужо цяпер Віцебскі аблвыканкам горш за іншыя вобласці выконвае выдадзеныя раней гарантыі - яго абавязак перад банкамі складае больш за 100 мільярдаў рублёў.

У сувязі з гэтым прэм'ер-міністр чакае ад губернатара, міністра эканомікі і іншых службовых асоб канкрэтных прапаноў па лакалізацыі пагроз, якія нясе рост пратэрмінаванай запазычанасці і пазыковай нагрузкі асабліва для сельскагаспадарчых вытворцаў.

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.07.2013 у 19.40** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.